№3 1995

# Каталіцкія навіны

Інфармацыйны бюлетэнь

Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла

**У** ліпені Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк з 48 святарамі з Беларусі, Казахстану і Украіны наведаў Фаціму (Партугалія). Гэта была першая пілігрымка святароў з тэрыторый, пра якія гаварылася ў Фацімскіх аб'яўленнях. Пілігрымка ў Фаціму была сведчаннем і знакам таго, што навяртанне на Усходзе ўжо распачалося, - сказаў Яго Эмінэнцыя. - І сведчыць аб тым, што вера, якую знішчалі, не загінула і абуджаецца да жыцця. Кардынал К.Свёнтэк адзначыў таксама, што магчыма гэтае адраджэнне ажывіць рэлігійнае жыццё і на Захадзе. 25 ліпеня Яго Эмінэнцыя меў магчымасць размаўляць з сястрою Лючыяй, якой у 1917г. аб'явілася Маці Божая. 26 ліпеня кардынал Казімір Свёнтэк сумесна з біскупам Казахстану і Сярэдняй Азіі Янам Паўлам Ленгам і біскупам з Украіны, суфраганам Жытомірскай дыяцэзіі Станіславам Шырокарадзюком абвясціў Акт прысвячэння мясцовых касцёлаў Маці Божай.

***13 кастрычніка гг., у дзень апошняга аб'яўлення Маці Божай у Фаціме, гэты Акт прысвячэння будзе зачытаны ва ўсіх касцёлах Беларусі.***

**(с. 2-3)**

**Н**іколі больш не павінна быць вайны! Павінен быць мір! Так думалі і адчувалі ўсе на наступны дзень пасля таго гістарычнага дня 8 мая 1945 года. Страшныя 6 гадоў вайны для ўсіх былі сталеннем у школе пакутаў: хрысціяне таксама знайшлі шляхі, каб зблізіцца адзін з адным і задаць сабе шэраг пытанняў аб адказнасці за сваё раздзяленне. Яны, акрамя таго, адкрылі салідарнасць лёсу, што яднала іх паміж сабой і з усімі людзьмі, якой бы нацыянальнасці яны ні былі.

Так адбылося, што падзея, якая сама па сабе была вяршыняй разрыву і раздзялення паміж народамі і паміж асобнымі людзьмі, для хрысціянаў стала магчымасцю, пасланай Вышэйшым, каб усвядоміць глыбокае адзінства ў пакутах і ў сведчанні. Каля падножжа Хрыстовага крыжа члены ўсіх Цэркваў і хрысціянскіх суполак змаглі выстаяць, аж да найвышэйшай ахвяры. Многія з іх працістаялі катам толькі мірнай зброяй сведчання ў пакутах і любові. Разам з іншымі, веруючымі і няверуючымі, людзьмі розных расаў, веравызнання і нацыянальнасцей яны пасылалі такім чынам заклік да братэрства і даравання, які высока ўзнімаўся над нарастаючым валам насілля.

***(з Паслання Папы Яна Пайла II да 50-годдзя заканчэння II Сусветнай вайны, с.4-7)***

*У НУМАРЫ:*

# АКТ ПРЫСВЯЧЭННЯ МАЦІ БОЖАЙ МЯСЦОВЫХ КАСЦЁЛАЎ НА БЕЛАРУСІ, УКРАІНЕ, У КАЗАХСТАНЕ І СЯРЭДНЯЙ АЗІІ

***Фаціма, 26 ліпеня 1995 года***

Да Цябе, Маці, прыходзім сёння, каб далучыцца да гістарычнага акту прысвячэння Табе, о Маці наша, Святым Айцом Янам Паўлам II, які быў здзейснены з біскупамі ўсяго свету 25 сакавіка 1984 года на плошчы Святога Пятра ў Рыме.

«Бо так Бог палюбіў свет, што Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб кожны, хто ў Яго верыць, не загінуў, але меў жыццё вечнае» (Ян 3, 16).

Сын Божы з любові да ўсіх людзей аддаў жыццё за нас на крыжы, каб мы маглі жыць.

Сын Божы з любові да нас аддаў Маці Сваю нам за Маці, прамаўляючы словы: «Жанчына, вось сын твой. Пасля сказаў да вучня: вось Маці твая» (Ян 19, 26-27).

Езус Хрыстус сказаў нам: «Благаслаўлёныя, хто церпіць пераследаванні дзеля справядлівасці, бо ім належыць Царства Нябеснае» (Мц 5, 10).

Сёння мы, біскупы і святары - прадстаўнікі Касцёла, які быў пераследаваны, стаім перад Табою, Маці Хрыстова і наша Маці. Прагнем у лучнасці з усімі святарамі і вернікамі перад Тваім Беззаганным Сэрцам паяднацца з Адкупіцелем нашым у гэтым ахвяраванні за нас, якое толькі ў Яго Боскім Сэрцы мае моц перапрашэння.

Вітана будзь, Марыя, - Ты ўдзельнічаеш у справе збавення свету. Ты, о Найлепшая Маці, бачыла, куды ідзе чалавек, апантаны насіллем і прагаю панавання над іншымі людзьмі. Таму Ты столькі разоў прыходзіш заклікаць чалавецтва, каб яно апрытомнела і вярнулася на дарогу любові праз малітву і пакаянне.

Даўяраючы Табе, о Маці, усіх людзей розных нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі нашых мясцовых касцёлаў, аддаем іх Твайму Матчынаму Сэрцу.

***О як жа глыбока адчуваем сёння патрэбу аддзячыць Табе, о Маці:***

- за апеку і дапамогу падчас пераследаванняў
- за Тваё Пасланне, якое заклікае людзей да навяртання праз малітву, асабліва ружанцовую, і пакаянне
- за Касцёл на нашых тэрыторыях, за святароў, законнікаў і свецкіх, якія былі пераследаваны, зняволены, сасланы на цяжкія работы, што вытрывалі ў веры і захавалі вернасць Апостальскай Сталіцы
- за ўратаванне жыцця Святому Айцу Яну Паўлу II, якога спрабавалі забіць
- за магчымасць аднаўлення касцельнай іерархіі і адраджэння рэлігійнага жыцця.

***О як жа глыбока адчуваем сёння патрэбу перапрашэння Цябе, о Маці:***

- за брак адвагі ў многіх прызнавання да Бога і Касцёла
- за брак еднасці сярод хрысціян
- за брак пашаны да святых месцаў і дзён
- за забойства ненароджаных дзяцей
- за разводы, разбітыя сем'і і дэмаралізацыю моладзі
- за людзей, якія паддаліся алкагалізму і іншай залежнасці
- за зневажанне законаў Божых, чалавечай годнасці і знішчэнне духоўных каштоўнасцей, рэлігійных і маральных
- за ўсе грахі, і асабліва супраць Духу Святога, якія дапускаліся і цяпер дапускаюцца на нашай зямлі.

***О як жа глыбока адчуваем сёння патрэбу даверыць Твайму заступніцтву нашыя просьбы і інтэнцыі. Просім Цябе, о Маці:***

- аб спакоі і згодзе для свету і спыненні насілля на зямлі
- аб свабодзе народаў і рэлігійнай свабодзе
- аб еднасці ўсіх хрысціян і згоду паміж імі
- аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях з нашых Касцёлаў
- аб духоўным, маральным і рэлігійным адраджэнні, асабліва сярод моладзі
- аб трываласці хрысціянскіх сем'яў
- аб цвярозасці нашых народаў
- аб справядлівых законах жыцця, адпаведных з Божымі запаведзямі і навукаю Касцёла
- аб сіле і моцы ў пераадоленні бедстваў, якія нішчаць нашыя народы
- аб удзяленні ласк, патрэбных для ўсіх нас, каб мы маглі жыць годна, як дзеці Божыя.

Прымі, о Маці Хрыстуса і наша Маці - гэтыя просьбы нашы і адданне ўсіх нас Твайму Беззаганнаму Сэрцу.

Просім разам з Айцом Святым Янам Паўлам II: «Няхай яшчэ раз аб'явіцца ў гісторыі свету бясконцая моц міласэрнае Любові! Няхай спыніць зло! Няхай пераменіць сумленні! Няхай у Беззаганным Сэрцы адкрыецца для ўсіх святло Надзеі». Амэн.

*Казімір Свёнтэк,*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*
*і Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі*

*Ксёндз біскуп Ян Павел Ленга,*
*Апостальскі Адміністратар*
*Казахстану і Сярэдняй Азіі*

*Ксёндз біскуп Станіслаў Шыракарадзюк,*
*суфраган Жытомірскай дыяцэзіі*

# AKT ZAWIERZENIA MATCE BOŻEJ KOŚCIOŁOW LOKALNYCH NA BIAŁORUSI, UKRAINIE, W KAZACHSTANIE I AZJI ŚRODKOWEJ

*FATIMA 26.07.1995*

Dziś do Ciebie Matko przychodzimy, aby dołączyć się do tego historycznego aktu zawierzenia Ojca Świętego Jana Pawla II Tobie o Matko nasza, dokonanego z biskupami całego świata na placu świętego Piotra w Rzymie 25 marca 1984 r.

«Tak bowiem Bóg umiłował świat, że Syna Swego Jednorodzonego dał, aby każdy kto w Niego wierzy, nie zginął, ale miał życie wieczne» /J 3,16/

Syn Boży z miłości do nas wszystkich ludzi oddał życie za nas na krzyżu abyśmy mogli żyć.

Syn Boży z miłości do nas oddał swoją Matkę nam za Matkę wypowiadając słowa: «Niewiasto, oto syn Twój. Następnie rzekl do ucznia, Oto Matka twoja» / J 19,26-27/

Jezus Chrystus powiedział nam «Błogosławieni którzy cierpią prześladowania dla sprawiedliwości albowiem do nich należy królestwo niebieskie» /Mt 5,10/

Dzisiaj my biskupi i kapłani - przedstawiciele Kościoła, który był prześladowany stajemy przed Tobą, Matko Chrystusa i nasza Matko. Pragniemy w łączności ze wszystkimi kapłanami i wiernymi, wobec Twego Niepokalanego Serca zjednoczyć się z Odkupicielem naszym w tym poświęceniu za nas, które tylko w Jego Boskim sercu ma moc przebłagać i zadośćuczynić.

Bąd·ż pozdrowiona Maryjo, która masz udział w dziele zbawienia świata.

Ty, Najlepsza Matko, wiedziałaś dokąd zmierza człowiek opętany przemocą i chęcią panowania nad innymi ludźmi. Dlatego wiele razy przychodzisz wrzywać ludzkość, aby opamiętała się i wróciła na drogę miłości przez modlitwę i pokutę.

Zawierzając Tobie o Matko wszystkich ludzi, różnych narodowości żyjących w naszych Kościołach lokalnych, składamy ich w Twoim macierzyńskim Sercu.

***O jak·że głęboko czujemy dziś potrzebę podziękowania Tobie o Matko:***

- za opiekę i pomoc w czasie prześladowań
- za Twoje Orędzie wzywające do nawrócenia ludzi przez modlitwe, zwłaszcza różańcową i pokute
- za Kościół na naszych terenach, kapłanów, osoby zakonne i świeckich, którzy byli prześladowani, więzieni, zsyłani na ciężkie roboty, że wytrwali w wierze i dochowali wierności Stolicy Apostolskiej
- za uratowanie życia Ojcu Świętemu Janowi Pawłowi II, którego usiłowano zabić
- za umożliwienie wznowienia hierarchi kościelnej i odradzania się życia religijnego.

***O jakże głęboko czujemy dzisiaj potrzebę zadośćuczynienia Tobie o Matko:***

- za brak odwagi u wielu w przyznawaniu się do Boga i Kościoła
- za brak jedności wśród chrześcijan
- za brak poszanowania miejsc i dni świętych
- za zabijanie nienarodzonych dzieci
- za plagę rozwodów, rozbite rodziny i demoralizacje młodzieży
- za ludzi, którzy poddali się alkoholizmowi i innym nałogom
- za deptanie praw Bożych, godności człowieka i niszczenie wartości duchowych, religijnych i moralnych
- za wszystkie grzechy a zwłaszcza przeciwko Duchowi Świętemu, które były i są popełniane na naszej ziemi.

***O jakże głęboko czujemy dzisiaj potrzebę polecić Twojemu wstawiennictwu nasze prośby i intencje. Prosimy Cię o Matko:***

- o pokój i zgodę dla świata i zaniechanie przemocy na ziemi
- o wolność narodów i swobodę religijną
- o jedność wśród chrześcijan i zgodę między nimi
- o powołania kapłańskie, zakonne i misyjne z naszych Kościołów
- o odrodzenie duchowe, moralne i religijne zwłaszcza wśród młodzieży
- o trwałość rodzin chrześcijańskich
- o trzeźwość naszych narodów
- o słuszne prawa do życia z przykazaniami Bożymi i nauką Koscioła
- o siłę i moc w przezwyciężeniu plag niszczących nasze narody
- o udzielenia łask potrzebnych dla nas wszystkich abyśmy mogli żyć w godności dzieci Bożych.

Przyjmij, o Matko Chrystusa i nasza Matko to nasze wołanie i zawierzenie nas wszystkich Twojemu Niepokalanemu Sercu.

Wołamy wraz z Ojcem Świętym Janem Pawłem II «Niech jeszcze raz objawi się w dziejach świata nieskończona potęga Miłości miłosiernej! Niech powstrzyma zło! Niech przetworzy sumienia! Niech w Sercu Niepokalanym odsłoni się dla wszystkich swiatło Nadziei. Amen.

*Kazimierz Kard.Swiątek*
*Metropolita Mińsko-Mohylewski*
*i Administrator Apostolski Diecezji Pińskiej*

*Ks.Biskup Jan Paweł Lenga*
*Administrator Apostolski*
*Kazachstanu i Azji Średniej*

*Ks.Biskup Stanisław Szyrokoradiuk*
*Biskup Pomocniczy Diecezji Żytomierskiej*

# *Пасланне Папы Яна Паўла II*

1. Пяцьдзесят гадоў таму назад, 8 мая 1945 года, на еўрапейскай зямлі скончылася II Сусветная вайна. Канец гэтага страшнага бедства ажывіў у сэрцах надзею на вяртанне палонных, бежанцаў і дэпартаваных, і ў той жа час нарадзіў жаданне пабудаваць больш дастойную Еўропу. Гэты кантынент мог зноў спадзявацца на будучыню, заснаваную на міры і дэмакратыі.

Прайшло паўвека, а людзі, сем'і і народы яшчэ памятаюць тыя шэсць страшных гадоў. Гэта памяць аб страху, насіллі, нястачы, смерці; памяць аб цяжкім вопыце разлукі, перажытай па-за бяспекай і свабодай; памяць аб жаху масавых знішчэнняў, якім не было канца.

### *З цягам часу ўдаецца лепш зразумець сэнс мінулых падзей*

2. Тады было цяжка цалкам зразумець разнастайныя і трагічныя змены ў канфлікце. Але па меры таго, як ішлі гады, узрастала ўсведамленне важнасці тых мінулых падзей для XX стагоддзя і для будучыні свету. II Сусветная вайна не была проста першаступеннай гістарычнай падзеяй; яна сталася паваротным пунктам для сучаснага чалавецтва. Ход часу не павінен аслабляць успаміны; наадварот, яны павінны станавіцца суровым урокам для нашага пакалення і для нашых нашчадкаў.

Што значыла гэтая вайна для Еўропы і свету — гэта ўдалося зразумець за мінулыя пяць дзесяцігоддзяў дзякуючы таму, што мы займелі новыя данныя, якія дазволілі нам лепш пазнаёміцца з усімі ўчыненымі ею пакутамі. Трагічны вопыт, перажыты паміж 1939 і 1945гг., сёння ўяўляе сабой неабходны пункт адліку для тых, хто хоча задумацца аб сучаснасці і будучыні чалавецтва.

У 1989 годзе, з нагоды 50-годдзя пачатку вайны, я пісаў: «50 гадоў таму наш абавязак перад Богам - памятаць аб тых драматычных падзеях, каб шанаваць памерлых, спагадаць усім тым, хто быў паранены духоўна і фізічна гэтай навалай жорсткасці, і каб цалкам дараваць усе крыўды».

Неабходна зберагаць жывую памяць аб усім, што адбылося: гэта наш абавязак. Шэсць гадоў назад вакол таго 50-годдзя ва Усходняй Еўропе вырысоўваліся нечаканыя сацыяльныя і палітычныя сцэнарыі, у рамках якіх адзін за другім рушыліся камуністычныя рэжымы. Гэта быў глыбокі сацыяльны пераварот, які прадухіліў некаторыя трагічныя вынікі II Сусветнай вайны, канец якіх для многіх еўрапейскіх нацый зусім не адзначаў пачатак сапраўднага міру і дэмакратыі, хаця 9 мая 1945 года здавалася натуральным менавіта гэтага чакаць. Сапраўды, многія народы былі пазбаўлены права распараджацца сваім лёсам і былі замкнуты ва ўдушлівую прастору адной імперыі, якая спрабавала знішчыць не толькі іх рэлігійныя традыцыі, але і іх гістарычную памяць і векавыя карані іх культуры. Гэта тое, што я пастараўся выдзеліць у энцыкліцы «Centesimus annus». Для гэтых народаў II Сусветная вайна на самой справе закончылася толькі ў 1989 годзе.

### *Ацэнка неймавернай разбуральнасці гэтай вайны*

3. Вынікі II Сусветнай вайны для жыцця нацый і кантынентаў аказаліся неверагоднымі. Ваенныя могілкі лучаць у нашых успамінах хрысціян і веруючых іншых рэлігій, ваенных і грамадзянскае насельніцтва Еўропы і іншых рэгіёнаў свету. На еўрапейскай жа зямлі змагаліся і воіны з нееўрапейскіх краін, і многія загінулі на поле бітвы. Для некаторых жа дзень 8 мая 1945 года быў канцом страшнага кашмару.

Загінулі дзесяткі мільёнаў людзей - мужчын і жанчын; няма ліку параненых і без весткі прапаўшых. Безліч сем'яў былі вымушаны пакінуць землі, на якіх жылі вякамі; рушылася асяроддзе, знікалі гістарычныя помнікі, гарады і краіны ператварыліся ў руіны. Ніколі раней не было такога, каб грамадзянскае насельніцтва заплаціла за канфлікт такой дарагой цаной, такой колькасцю загінуўшых жанчын і дзяцей.

### *Мабілізацыя нянавісці*

4. Яшчэ больш страшнай з'явай стала распаўсюджанне «культуры вайны» з яе грознымі вынікамі: смерцю, нянавісцю і насіллем. У 1989 годзе, зьвяртаючыся да польскага епіскапату, я пісаў: «II Сусветная вайна паказала ўсім невядомае дасюль вымярэнне, да якога можа давесці пагарда да чалавека і парушэнне яго правоў. Гэтая вайна небывалым чынам мабілізавала нянавісць, зняважыўшы чалавека і ўсё чалавечнае ў імя імперыялістычнай ідэалогіі».

Мы ніколі не зможам у поўнай меры падкрэсліць, усвядоміць, наколькі II Сусветная вайна трагічна перамяніла жыццё стольків людзей і народаў. Дайшлі да пабудовы лагераў знішчэння, у якіх жахліва загінулі мільёны яўрэяў, сотні тысяч цыган і іншых людзей, віна якіх была толькі ў прыналежнасці да таго ці іншага народа.

...

### *Нельга будаваць грамадства на насіллі*

7. II Сусветная вайна была галоўным звяном гэтага працэсу выраджэння; але ж ці зрабілі мы ў наступныя дзесяцігоддзі належныя вывады з гэтага? На жаль, канец вайны не прывёў да знікнення таго роду палітыкі і тых ідэалогій, што былі яе прычынай ці ёй патуралі. У іншым абліччы працягвалі існаваць таталітарныя рэжымы, і яны нават распаўсюдзіліся, асабліва ва Усходняй Еўропе. Пасля таго памятнага 8 мая на еўрапейскім кантыненце і ў іншых месцах працягвалі існаваць шматлікія канцэнтрацыйныя лагеры, людзі заставаліся і далей у зняволенні, насуперак усім элементарным патрабаванням правоў чалавека. Усё яшчэ не ўдавалася ўразумець, што нельга будаваць грамадства, дастойнае чалавека, на яго, чалавека, знішчэнні, на рэпрэсіях і дыскрымінацыі. І па сённяшні дзень гэты ўрок II Сусветнай вайны не цалкам і не ўсюды ўспрыняты. Аднак ён застаецца і павінен

## *да 50-годдзя заканчэння II Сусветнай вайны*

заставацца як напамінак і папярэджанне для будучага тысячагоддзя.

У прыватнасці, у гады перад II Сусветнай вайной культ нацый быў даведзены да такой крайнасці, што стаў як бы ідалапаклонствам і выклікаў страшную катастрофу тых шасці гадоў. Ужо ў 1930 годзе Папа Пій XI папярэджваў: «Цяжка - каб не сказаць: немагчыма - гарантаваць мір паміж народамі і дзяржавамі, калі сапраўдная, шчырая любоў да радзімы замяняецца эгаістычным і жорсткім нацыяналізмам, які ўладарыць і прыносіць з сабой бедствы, таму што ён - нянавісць і зайздрасць, а не ўзаемнае жаданне дабра, недавер і падазрэнне, а не брацкі давер, суперніцтва і барацьба, а не мірнае супрацоўніцтва, імкненне да гегемоніі і панавання, а не павага і выкананне ўсіх правоў, у тым ліку і правоў слабейшых і самых малых».

Не выпадкова некаторыя дасведчаныя дзяржаўныя дзеячы Заходняй Еўропы пажадалі, зыходзячы менавіта з развагаў аб бедствах, выкліканых II Сусветнай вайной, стварыць супольнасць сваіх краін. Гэты працэс развіваўся ў наступныя дзесяцігоддзі, і ў ім канкрэтызавалася жаданне ўступіўшых у яе нацый не заставацца адзінокімі са сваім лёсам.

### *Касцёл чуе плач ахвяраў*

З нагоды 50-годдзя заканчэння II Сусветнай вайны чуюцца шматлікія прапановы перасягнуць раздзяленне паміж пераможцамі і пераможанымі. Ушаноўваецца мужнасць і гонар ахвяраў, прынесеных мільёнамі мужчынаў і жанчын. Касцёл, са свайго боку, асабліва прыслухоўваецца да плачу ахвяраў. Гэты плач садзейнічае яснаму разуменню жаху таго шасцігадовага канфлікту. Ён прымушае задумацца над тым, чым быў гэты канфлікт для ўсяго чалавецтва. Ён выкрывае ідэалогіі, якія прывялі да катастрофы. Перад фактам усялякай вайны ўсе мы павінны задумацца аб нашай адказнасці, просячы даравання і даруючы. Для хрысціянаў асабліва горка ўсведамляць, што жудасныя ўчынкі адбываліся ў часе гэтай вайны на кантыненце, дзе выхваляліся сваёй культурай і цывілізацыяй, на тым кантыненце, які даўжэй за ўсіх пражыў ў свеце Евангелля і Царквы. За гэта хрысціяне Еўропы павінны прасіць даравання, нягледзячы на тое, што адказнасць за пабудову машыны вайны была шматлікай.

### *Вайна не можа прывесці да перамогі справядлівасці*

9. Раздзяленні, выкліканыя II Сусветнай вайной, напамінаюць аб тым, што сіла на службе «ўладароў» не можа быць адэкватным інструментам для дасягнення сапраўднай справядлівасці. Наадварот, яна спараджае шкодны працэс, вынікі якога непрадказальныя для людзей і народаў, якія могуць страціць з-за яго ўсякую годнасць, усю маёмасць і нават жыццё.

Папа Ян XXIII у энцыкліцы «Pacem in terris» пісаў, што ў наш час ўсё глыбей укараняецца перакананасць: калі паміж народамі ўзнікаюць спрэчкі, нельга вырашаць іх, беручыся за зброю; неабходна весці перамовы. Бываюць, канечне, няўдачы, уласцівыя прыродзе чалавека, але ёсць і факты, нават нядаўнія, каторыя паказваюць, што справядлівыя, цярплівыя перагаворы, поўныя павагі да правоў і пажаданняў абодвух бакоў, могуць сапраўды адкрыць шлях да мірнага вырашэння нават самых складаных сітуацый. У гэтым духу я выказваю сваю глыбозную падзяку і поўную падтрымку ўсім тым, хто сягоння стараецца будаваць мір.

І асабліва я напамінаю пра тое, што ніколі немагчыма забыць, - атамныя выбухі, якія нанеслі паражэнне спачатку Хірасіме, а затым Нагасакі ў жніўні 1945 года. Гэтыя выбухі самым жахлівым чынам сведчаць аб жаху і пакутах, прычыненых вайной: канчатковы вынік гэтай трагедыі, як я гаварыў у час майго знаходжання ў Хірасіме, - яшчэ не падведзены і не вымерана чалавечая цана, калі ўлічыць ўсё тое, чым ядзерная вайна праявілася - і яшчэ можа праявіцца - на нашых ідэях, нашых паводзінах і нашай цывілізацыі. «Памятаць аб мінулым - значыць узяць на сябе абавязацельствы перад будучыняй. Памятаць пра Хірасіму - значыць з абурэннем адхіляць ядзерную вайну. Памятаць пра Хірасіму - значыць усё рабіць дзеля міру. Памятаць аб пакутах жыхароў гэтага горада - значыць адрадзіць нашу веру ў чалавека, у яго здольнасць рабіць дабро, у яго свабоду выбіраць тое, што праведна, у яго рашучасць ператварыць няшчасце ў новы пачатак».

Праз 50 гадоў пасля таго трагічнага канфлікту, які праз некалькі месяцаў закончыўся ў рэгіёне Ціхага акіяну па прычыне драматычных падзей у Хірасіме і Нагасакі, а затым у выніку капітуляцыі Японіі, мы ўсё ясней бачым у ім самазабойства чалавецтва. Калі ж удумацца ў справу, зразумела, што гэта было ўсеагульным паражэннем, - і пераможцы, і пераможаныя пацярпелі паражэнне.

### *Прапагандысцкая машына*

Тут неабходна выказаць яшчэ адно меркаванне: падчас II Сусветнай вайны выкарыстоўваліся розныя віды зброі, у тым ліку і хімічная, біялагічная і ядзерная, але шырока выкарыстоўвалася і новая смяротная зброя, а менавіта - прапаганда. Перад тым, як разбіць праціўніка сродкамі фізічнага знішчэння, яго спрабавалі знішчыць маральна пры дапамозе паклёпу, ілжывых абвінавачванняў, заклікаў, звернутых да грамадскасці з мэтай стварыць абсалютна ірацыянальную нецярпімасць; выкарыстоўвалася ўсялякага роду прамыванне мазгоў, асабліва ў адносінах да моладзі.

Гэта характэрна для кожнага таталітарнага рэжыму: ствараецца велізарная. прапагандысцкая машына, каб апраўдаць асабістыя злачынствы і стварыць атмасферу ідэалагічнай нецярпімасці і расісцкага насілля над тымі, каго аб'яўляюць нявартымі належаць да грамадства.

Як далёка ўсё гэта ад сапраўднай сусветнай культуры! Сусветная культура дапускае прызнанне сутнаснай сувязі паміж праўдай і любоўю. Сусветная культура будуецца перш за ўсё на адмаўленні любой формы нецярпімасці і расізму, прычым ні ў якім разе нельга паддавацца расісцкай прапагандзе, наадварот, неабходна кантраляваць і стрымліваць эканамічныя і палітычныя амбіцыі, з рашучасцю адмаўляць усялякае насілле і ўсялякую эксплуатацыю.

Каварныя прапагандысцкія механізмы не толькі падробліваюць рэальныя даныя, але яны заплямляюць інфармацыю і робяць яе безадказнай, у выніку чаго становіцца цяжка знесці маральнае ці палітычнае меркаванне. Вайна спараджае прапаганду, якая не пакідае месца свабодзе інтэрпрэтацый, крытычнаму аналізу прычын, пошуку сапраўднай адказнасці. Гэта тое, што мы канстатуем пры разглядзе даных, якія тычацца іншых войнаў, што адбываліся ў наступныя гады: у любым грамадстве вайна вядзе да татальнага выкарыстання сродкаў інфармацыі і прапаганды і прыводзіць не да павагі да іншага і дыялогу, але да падазрэнняў і пошуку помсты.

### *Вайна не знікла*

На вялікі жаль, войны не скончыліся ў 1945 годзе. Насілле, тэрарызм і ўзброеныя напады маюць месца і ў апошнія дзесяцігоддзі. Мы былі сведкамі так званай «халоднай вайны», калі два блокі супрацьстаялі адзін аднаму, захоўваючы раўнавагу пры дапамозе пастаяннай гонкі ўзбраенняў. Але калі закончылася гэтае супрацьстаянне двух палюсоў, ўзброеныя канфлікты не спыніліся.

Яшчэ сягоння вельмі шмат ва ўсім свеце ўзброеных сутычак. А грамадская думка, уражаная страшнымі вобразамі, што кожны дзень трапляюць у нашыя дамы праз тэлебачанне, спачатку рэагуе эмацыянальна, але затым вельмі хутка прывыкае і як бы пачынае лічыць такія факты непазбежнымі. Гэта няправільна, несправядліва і вельмі небяспечна. Нельга забываць пра тое, што адбылося ў мінулым і што адбываецца ў нашыя дні. Гэта драмы, што закранаюць безліч нявінных ахвяраў, чые крыкі страху і пакутаў заклікаюць да сумленнасці ўсіх добрых людзей: нельга, ні ў якім разе нельга ўступаць логіцы зброі!

Святы Прастол падпісаў ўсе галоўныя міжнародныя пагадненні і дагаворы, стараючыся такім шляхам - і працягвае няспынна гэта рабіць - прыцягнуць увагу згуртавання нацый да неабходнасці умацаваць законы, якія тычацца нераспаўсюджвання ядзернай зброі і знішчэння зброі хімічнай і біялагічнай, а таксама ўсялякай зброі, уздзеянне якой асабліва цяжкае, а паражэнне - невыбіральнае. Святы Прастол нядаўна заклікаў грамадскасць да таго, каб яна ўсвядоміла ўсю сур'ёзнасць гандлю зброяй - з'явы, над якою неабходна ўсур'ёз задумацца, сыходзячы з этычных прынцыпаў. Неабходна таксама памятаць, што не толькі мілітарызацыя дзяржаў, але і лёгкі доступ да зброі прыватных асоб, які садзейнічае распаўсюджанню арганізаванай злачыннасці і тэрарызму, з'яўляецца непрадказальнай і пастаяннай пагрозай міру.

### *Урок для ўсіх веруючых*

Ніколі больш не павінна быць вайны! Павінен быць мір! Так думалі і адчувалі ўсе на наступны дзень пасля таго гістарычнага дня 8 мая 1945 года. Страшныя 6 гадоў вайны для ўсіх былі сталеннем у школе пакутаў: хрысціяне таксама знайшлі шляхі, каб зблізіцца адзін з адным і задаць сабе шэраг пытанняў аб адказнасці за сваё раздзяленне. Яны, акрамя таго, адкрылі салідарнасць лёсу, што яднала іх паміж сабой і з усімі людзьмі, якой бы нацыянальнасці яны ні былі.

Так адбылося, што падзея, якая сама па сабе была вяршыняй разрыву і раздзялення паміж народамі і паміж асобнымі людзьмі, для хрысціянаў стала магчымасцю, пасланай Вышэйшым, каб усвядоміць глыбокае адзінства ў пакутах і ў сведчанні. Каля падножжа Хрыстовага крыжа члены ўсіх Цэркваў і хрысціянскіх супольнасцей змаглі выстаяць, аж да найвышэйшай ахвяры. Многія з іх процістаялі катам, прыбягаючы толькі да мірнай зброі сведчання ў пакутах і любові. Разам з іншымі, веруючымі і няверуючымі, людзьмі розных расаў, веравызнання і нацыянальнасцей яны пасылалі такім чынам заклік да братэрства і даравання, які высока ўзнімаўся над нарастаючым валам насілля.

У гэтую гадавіну як не ўспомніць пра хрысціянаў, якія, выступаючы супраць зла, маліліся за тых, хто прыгнятаў іх, і схіляліся, каб перавязаць і лячыць раны ўсіх? Сперажываючы Пакуты Пана, яны змаглі пазнаць адзін у адным братоў і сясцёр і да канца зразумелі неразумнасць свайго раздзялення. Спачуванне прывяло іх да больш поўнага ўсведамлення цяжкасці раздзялення паміж паслядоўнікамі Хрыста і іх адмоўных вынікаў, якія адбіваюцца на духоўным, культурным і палітычным станаўленні кантынента. Перажытае гэтымі людзьмі напамінае нам: неабходна ісці гэтым шляхам, молячыся і працуючы з даверам і велікадушнасцю, у чаканні ўжо блізкага вялікага Юбілею 2000 года. Мы кіруемся да гэтай даты як паломнікі, поўныя духу пакаяння і прымірэння, з надзеяй, што можна будзе ўрэшце дасягнуць поўнага паразумення ў адносінах паміж усімі веруючымі ў Хрыста, на карысць дабра дзеля міру.

13. Мора пакутаў і болю, што разам з вайною разлілося па зямлі, прымусіла веруючых усіх рэлігій паставіць свае духоўныя рэсурсы на карысць міру. Усе рэлігіі, ідучы кожная сваім асабістым шляхам, за апошнія пяць дзесяцігоддзяў зведалі ўсё на асабістым вопыце. Свет сведка таго, што пасля страшнай трагедыі вайны нарадзілася нешта новае ў свядомасці веруючых розных рэлігійных канфесій: яны разумеюць сваю адказнасць за мір паміж людзьмі і пачынаюць супрацоўнічаць адзін з адным. Сусьветны дзень малітвы за мір у Асізі 27 кастрычніка 1986 года як бы ўклаў у розум грамадзкасці такі склад думак, які быў народжаны ў пакутах. У Асізі мы ўбачылі, што ёсць унутраная сувязь паміж сучасным рэлігійным светапоглядам і вялікім шчасцем міру. У наступныя дні малітвы за мір на Балканах

падкрэсліваліся асаблівыя дзеянні, якія вернікі малітвай і постам павінны выконваць для ўстанаўлення і ўмацавання міру.

Свет, набліжаючыся да канца 2-га тысячагоддзя, чакае ад вернікаў рашучых дзеянняў на карысць міру. Я звярнуўся да прадстаўнікоў хрысціянскіх Цэркваў і вялікіх рэлігій, што сабраліся ў Варшаве ў 1989 годзе з нагоды 50-годдзя пачатку вайны, з наступнымі словамі: «З самага сэрца нашых разнастайных рэлігійных традыцый вынікае сведчаньне аб спагадлівым удзеле ў няшчасці людзей, аб павазе да святасці жыцця. Гэта вялікая духоўная энергія, якая дае надзею на будучыню чалавецтва». Горкі вопыт II Сусветнай вайны, праз 50 гадоў пасля яе заканчэння прымушае нас яшчэ больш цвяроза ўсведамляць, што неабходна даць волю гэтым духоўным энергіям, з новымі сіламі і рашучасцю.

### *Ёсць яшчэ людзі, якія рыхтуюць войны*

14. У гэтыя дні ў многіх еўрапейскіх краінах адбываліся цырымоніі, у якіх прымалі ўдзел грамадзянскія ўлады і кіраўнікі розных суполак і краін. Прыгадваючы ахвяру, прынесеную столькімі людзьмі пад час вайны, я заклікаю ўсіх людзей добрай волі сур'ёзна задумацца аб паслядоўнасці, што павінна быць паміж успамінамі аб страшным сусветным канфлікце і цяперашняй арыентацыяй палітыкі краін - як міжнароднай, так і ўнутранай.

Неабходна стварыць дзейсныя механізмы для кантролю над міжнародным рынкам узбраенняў і прадугледжваць структуры, якія ў стане ўмяшацца ў выпадку крызісу для таго, каб пераканаць усе бакі аддаць перавагу перамовам, чым узброенаму канфлікту. Хіба не праўда, што ў той час, як мы святкуем аднаўленне міру, усё яшчэ ёсць людзі, якія рыхтуюць вайну? Яны робяць гэта як праз распаўсюджванне культуры нянавісці, так і пры дапамозе дасканалага смяротнага ўзбраення. Хіба не праўда, што ў Еўропе ўсё яшчэ існуюць складаныя канфлікты, якія ўжо шмат гадоў чакаюць мірнага рашэння? Дзень 8 мая 1945 года, на жаль, не быў днём міру для некаторых еўрапейскіх рэгіёнаў. Асабліва я думаю пры гэтым аб змардаваных балканскіх землях і аб Каўказе, дзе яшчэ грукоча зброя і яшчэ праліваецца кроў людзей.

Праз 20 гадоў пасля заканчэння вайны, у 1965 годзе, Павел VI, выступаючы ў ААН, задаў пытанне: «Ці зможа свет калінебудзь змяніць тую ваяўнічую і эгаістычную ментальнасць, якая да цяперашняга часу так моцна вызначала яго гісторыю?» Мы ўсё яшчэ чакаем адказу на гэтае пытанне. Няхай успаміны аб II Сусветнай вайне ажывяць ва ўсіх рашучасць дзейнічаць - кожны ў меру сваіх магчымасцей - на службе ў моцнай палітыкі міру ў Еўропе і ва ўсім свеце.

### *Асаблівая роля моладзі*

15. Думкі скіроўваюцца да моладзі, якая не перажыла асабіста жаху гэтай вайны. Ім я кажу: я напоўнены даверам да вашай здольнасці быць сапраўднымі вешчунамі Евангелля. Вы павінны адчуваць сваю асабістую адказнасць за жыццё і за мір. Тыя, хто змагаўся ў II Сусветную вайну і хто загінуў у гэтай вайне, былі ў большасці маладыя, як вы цяпер. Таму я прашу вас, моладзь 2000 года, процістаяць культуры нянавісці і смерці. Не прымайце тупых і натхнёных насіллем ідэалогій; адхіляйце ўсялякую форму крайняга нацыяналізму і нецярпімасці; бо менавіта праз іх незаўважна пранікае спакуса насілля і вайны.

Вам даверана місія адкрываць новыя шляхі братэрства паміж народамі дзеля пабудовы адзінай чалавечай сям'і, паглыбляючы закон узаемнага дару, пры якім кожны дае сябе і прымае другога. Гэтага патрабуе духоўны закон, упісаны Стварыцелем ў сэрца кожнага чалавека, закон, які Ён падкрэсліў у Адкрыцці Старога Запавету і які Езус удасканаліў у Евангеллі: «Палюбі бліжняга свайго як самога сябе» (Мк 12, 31); «як Я палюбіў вас, так і вы палюбіце адзін аднаго» (Ін 13, 34). Цывілізацыю любові і праўды можна ажыццявіць толькі ў тым выпадку, калі гатоўнасць прыняць другога распаўсюджваецца на адносіны паміж народамі, нацыямі і культурамі. Няхай жа ў свядомасці кожнага гучыць гэты заклік: любі іншыя народы як любіш свой!

Будучыня чалавецтва - у адзінстве; сапраўднае адзінства - так кажа нам Евангелле - прыходзіць праз Езуса Хрыстуса, нашая згода і наш мір (пар. Яф 2, 14-18).

### *Патрэбна новае сэрца*

16. «І памятай увесь шлях, па якім вёў цябе Пан, Бог твой, па пустыні, вось ужо сорак гадоў, каб скарыць цябе, каб выпрабаваць цябе і даведацца, што ў сэрцы тваім, ці будзеш ты захоўваць запаведзі Яго, ці не. Ён рабіў цябе пакорлівым, марыў цябе голадам, і карміў цябе маннаю, якой не ведаў ты і не ведалі бацькі твае, каб паказаць табе, што не хлебам адзіным жыве чалавек, але ўсялякім словам, моўленым Панам, жыве чалавек».

Мы яшчэ не ступілі на запаветную зямлю міру. Успаміны аб пакутным шляху вайны і аб нялёгкім пасляваенным перыядзе ўвесь час нагадваюць нам аб гэтым. У змрочныя дні вайны, у цяжкія пасляваенныя гады, у нашы дні, напоўненыя няўпэўненасцю і мноствам праблем, гэты шлях часта адкрываў нам, што сэрцы людзей, у тым ліку і веруючых, моцна спакушаны нянавісцю, пагардай да іншых, уладалюбствам. Але на гэтым шляху заўсёды прысутнічала Божая дапамога, якая спараджала любоў, узаемаразуменне і мір, разам са шчырым жаданнем прымірэння і адзінства. Як вернікі, мы разумеем, што чалавек жыве словам Божым. Мы ведаем таксама, што мір укаранёны ў сэрцах, адкрытых Богу. Успамінаючы аб II Сусветнай вайне і аб шляху, пройдзеным у наступныя дзесяцігоддзі, хрысціянін не можа не адчуваць патрэбы ў новым сэрцы, якое змагло б паважаць чалавека і садзейнічаць умацаванню яго сапраўднай годнасці. Гэта - аснова для надзеі на мір у свеце.

*ЯН ПАВЕЛ II*

*Ватыкан, 8 мая 1995*

## Papież o dążeniu do braterskiej współpracy z Kościołami Wschodu

**Jan Paweł II zachęcił katolików do ciągłego poznawania nauczania Soboru Watykańskiego II na temat stosunków z Kościołami Wschodnimi. Przemawiając podczas audiencji generalnej 9 sierpnia podkreślił, że katolicy winni dążyć do braterskiej współpracy z członkami tych Kościołów, współpracy, która będzie darem miłości Boga dla Kościoła naszych czasów.**

**Ojciec Święty powiedział, że ogłoszone niedawno Dyrektorium ekumeniczne (VI 1993) dopuszcza pewną wzajemność między katolikami a Kościołami Wschodnimi, ponieważ «posiadają one prawdziwe sakramenty, przede wszystkim Kapłaństwo i Eucharystię». «Każdy katolik w situacji niemożności dotarcia do katolickiego kapłana, może przyjąć z rąk kapłana któregoś z Kościołów Wschodnich sakrament Pojednania, Eucharystii i Namaszczenia chorych, a kapłani katoliccy mogą udzieliać tych samych sakramentów chrześcijanom wschodnim».**

**Przemawiając do zgromadzonych na audiencji Polaków, Jan Paweł II przypominał, że sprawa stosunku Kościoła katolickiego do Kościoła prawosławnego ma swoją historię również i w historii Polski, kiedy to na jej terytorium żyło wielu wyznawców Koścoła prawosławnego. Papież wspomniał też, że na terenie Polski dokonała się w 1596 r. unia Kościołów zwana Unią Brzeską, a obecnie zbliżamy się do 400. rocznicy tego wydarzenia.**

**Ojciec Święty zwrócił uwagę na szczególną jedność w różnorodności pomiędzy Kościołem zachodnim i wschodnim: jedność wiary, sakramentów oraz jedność kultu maryjnego. Wskazał następnie iż ta różnorodność jest bogactwem i nie trzeba, ażeby była ona źródłem podziału, tylko źródłem jedności w wielości. «O to się stale modlimy» - zakończył Papież.**

*ml (KAI Rzym)*

ВАТЫКАН

## ПАПА і ВАРФАЛАМЕЙ І ЗА СУПОЛЬНАЕ СВЯТКАВАННЕ ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА

«Каталікі і праваслаўныя павінны разам святкаваць вялікі юбілей 2000 года і разам да яго рыхтавацца», - падкрэсліваецца ў супольнай заяве Варфаламея І і Яна Паўла II. Дакумент гэты быў апублікаваны 30 чэрвеня на заканчэнне трохдзённага візіту ў Ватыкан Варфаламея І.

Ян Павел II і Варфаламей І выказалі надзею на хуткую і поўную еднасць Царквы і Касцёла. Адначасова было падкрэслена, што актыўнае супрацоўніцтва «магло б узмацніць уплыў Царквы і Касцёла на карысць спакою і справядлівасці ў сферы этнічных канфліктаў. Дакумент падкрэслівае, што ватыканскі візіт патрыярха Варфаламея, які стаіць на чале 400 млн. хрысціян, зрабіў магчымаю адкрытую дыскусію ў шчырай брацкай атмасферы.

Падсумоўваючы вынікі гэтага дыялогу, Патрыярх і Папа адзначылі, што прывёў ён да паразумення ў справе сакрамэнтальнага характару Касцёла і значэння апостальскай спадчыны.

«Тым самым было сцверджана, што Касцёл і Царква прызнаюцца ў сваім братэрстве і што нясуць яны супольную адказнасць за захаванне адзінага Божага Касцёла, у вернасці Божым планам і асабліва ў тым, што датычыць адзінства.

Паразуменне гэта не толькі ўлатвіла выйсце з існуючых цяжкасцей, але ўжо цяпер дазваляе католікам і праваслаўным складаць супольнае сведчанне веры». Гэта ўяўляе незвычайную каштоўнасць на парозе трэцяга тысячагоддзя.

«Гэты вялікі Юбілей будзем адзначаць, пілігрымуючы да поўнай адказнасці і да благаславёнага дня, калі зможам браць удзел у адным і тым жа Хлебе і ў адным і тым жа Келіху, у адзінай Эўхарыстыі Панскай.

Папа і Патрыярх заклікаюць усіх верных, каб разам духова пілігрымавалі да Юбілею. «Разважанне, малітва, дыялог, узаемнае прабачэнне і братэрская любоў наблізяць нас яшчэ больш да Пана і дапамогуць лепш зразумець Яго волю, якая датычыць Касцёла і чалавецтва».

Ян Павел II і Варфаламей І заклікаюць вернікаў, каталікаў і праваслаўных да ўмацавання духу братэрства, якое бярэ свой пачатак з таго самага хросту і з удзелу ў жыцці сакрамэнтальным.

«На працягу гісторыі, а таксама ў нядаўнім мінулым здараліся ўзаемныя крыўды і прыклады ўціску; таму просячы Пана аб вялікай міласэрнасці, запрашаем усіх да ўзаемнага прабачэння і праяўлення нязломнай волі ў мацаванні новых братэрскіх адносін і актыўнага супрацоўніцтва. Дух гэты павінен заахвоціць каталікаў і праваслаўных, асабліва там, дзе жывуць блізка адны другіх, да больш ажыўленага супрацоўніцтва ў галіне культуры, духоўнасці, душпастырстве, выхаванню і грамадскім жыцці, пазбягаючы ўсялякай спакусы шчырага дбання аб сваёй супольнасці за кошт іншай».

## ВАРФАЛАМЕЙ І: ЕДНАСЦЬ ЦАРКВЫ І КАСЦЁЛА - НЕДАЛЁКАЯ БУДУЧЫНЯ

«Еднасць хрысціян ужо не з'яўляецца далёкаю і недасяжнаю будучыняю», - сказаў экуменічны патрыярх Канстанцінопаля Варфаламей І. Патрыярх прыбыў 30 чэрвеня ў Венецыю пасля трохдзённага візіту ў Ватыкане.

У часе Св. Імшы, якая адбылася ў той жа дзень у базыліцы св. Марка, Патрыярх зазначыў, што войны ў Босніі і Чачні - ганьба для Еўропы. «Браты, перастаньце праліваць кроў, ужо зашмат смерці! Гэта вялікі грэх», - заявіў Варфаламей І.

Гэта быў першы візіт экуменічнага Патрыярха ў Венецыю.

Праваслаўная царква ў Італіі налічвае 100 тыс. вернікаў. У Венецыі існуе найстарэйшая і найбольшая грэцкая праваслаўная супольнасць Захаду пасля падзелу Касцёла ў 1054 г. На чале яе стаіць мітрапаліт Спірыдон, які суправаджаў Патрыярха Варфаламея І у часе візіту ў Ватыкане.

700-ГОДДЗЕ Ў ЛАРЭТА:
**ТЭЛЕВІЗІЙНАЯ СУВЯЗЬ ПАПЫ З МОЛАДДЗЮ**

У часе еўрапейскай сустрэчы моладзі ў сувязі з 700-й гадавінай Ларэта ў верасні г.г. Ян Павел II будзе кантактаваць з дапамогаю тэлебачання з жыхарамі некалькіх litвградоў Еўропы.

Сустрэча Папы з моладдзю, запланаваная на 9 верасня ў Ларэта, будзе мець сатэлітарную сувязь адначасова з вернікамі ў 5 еўрапейскіх гарадах-сімвалах: Дрэздэне, Белфасце, Сант'яго дэ Кампастэла, Парыжы і Вільні.

6-10 верасня ў марыйным санктуарыі ў Ларэта сустрэнецца некалькі соцен тысяч маладых людзей з усяе Еўропы. Санктуарый быў збудаваны вакол «святое хаткі», што ўшаноўваецца як бацькоўскі дом Езуса ў Назарэце. Легенда нам апавядае, што ў Ларэта гэты дамок перанеслі анёлы 7 верасня 1295 г.



ВІЗІТЫ ПАПЫ:

### *У маі 1996г. адбудзецца пілігрымка Папы ў Славенію*

З 17 па 19 мая 1996 г. Ян Павел II наведае Славенію. Як паінфармаваў біскуп гэтай краіны на прэс-канферэнцыі ў Любляне, галоўным пунктам душпастырскага падарожжа Папы будзе Св. Імша 19 мая ў Марыборы, у часе якой Святы Айцец аб'явіць благаслаўлёным Антона Марыю Сломшэка (1800 - 1862), першага біскупа гэтага горада, пачынальніка славенскай культуры і літаратуры.

Беатыфікацыйны працэс біскупа Сломшэка быў распачаты ўжо ў 1922, а яго заканчэнне чакаецца ў бліжэйшыя месяцы.

• • • • • •

### *Берлін чакае Яна Паўла II ў чэрвені 1996г.*

Папа збіраецца наведаць Берлін пасля падарожжа па Венгрыі. Называюцца дзве даты гэтага візіту: 16 альбо 23 чэрвеня 1996 г. Афіцыйнаю прычынаю трэцяй пілігрымкі Святога Айца на нямецкую зямлю з'яўляецца беатыфікацыя былога пробашча берлінскай катэдры ксяндза Бернхарда Ліхтэнберга, які памёр у 1943 г. па дарозе ў канцэнтрацыйны лагер Дахау.

Магчыма, што ў часе свайго візіту ў Берлін Ян Павел II здзейсніць яшчэ адну беатыфікацыю, а менавіта - таемна высвячанага ў Дахау Карла Ляйснера, які памёр хутка пасля вызвалення ў 1945 г.

• • • • • •

### *У кастрычніку гэтага года Папа наведае ААН і 4 дыяцэзіі ў ЗША.*

З 4 па 9 кастрычніка Ян Павел II наведае Злучаныя Штаты. Галоўнаю мэтаю гэтага падарожжа будзе выступленне Папы ў Нью-Ёркскай сядзібе ААН у сувязі з 50-годдзем гэтай арганізацыі. Акрамя таго, Святы Айцец наведае 4 амерыканскія дыяцэзіі: Неварк, Нью-Ёрк, Бруклін і найстарэйшую - Балцімор.

Гэтае падарожжа Папы ў ЗША будзе ўжо шостае па ліку. Першы раз ён наведаў Штаты ў кастрычніку 1979 года (тады ж упершыню прамаўляў у ААН).

Кастрычніцкае падарожжа Святога Айца ў Штаты адбудзецца пасля двухтыднёвага, запланаванага на 14 - 20 верасня, візіту ў тры афрыканскія краіны: Камерун, Паўднёвую Афрыканскую Рэспубліку і Кенію.

## PRZYGOTOWANIA DO PROCESU BEATYFIKACYJNEGO KS.POPIEŁUSZKI

**Wkrótce podejmie prace Komisja ds. Przygotowania Procesu Beatyfikacyjnego ks.Jerzego Popiełuszki. Zespół ten - pod kierunkiem ks. prof. dr. hab. Ludwika Królika - powołał 24 czerwca br. Prymas Polski kard. Józef Glemp.**

**O zadaniach stojących przed Komisją poinformował 4 lipca KAI jej członek o. Gabriel Bartoszewski, kapucyn. Zespół ten będzie działał w oparciu o przepisy prawa kanonizacyjnego, tj. konstytucję apostolską «Divinus Perfectionis Magister» z 25 stycznia 1983 r. i Normy Kongregacji Spraw Kanonizacyjnych z 7 lutego 1983 r.**

**Zgodnie z ustalonymi przepisami Komisja powinna zebrać pisma drukowane za życia ks. Jerzego. Prawdopodobnie pism takich nie będzie, ponieważ - o ile wiadomo - przemówienia i notatki ks. Popiełuszki były drukowane po jego śmierci.**

**W drugiej kolejności Komisja winna zgromadzić wszystkie pisma niedrukowane ks. Jerzego, nawet te, które były publikowane po jego śmierci. Następnie winna zgromadzić wszystkie możliwe publikacje o kapłanie-męczenniku. Będą to pozycje książkowe, artykuły, rozprawy, ewentualne materiały filmowe, videokasety, nagrania itp. Nie może być też pominięty żaden dokument dotyczący jego życia i śmierci. Komisja - jak podkreślił o. Bartoszewski - ma zdobyć pewność moralną, że jest w posiadaniu wszystkich materiałow odnoszących się do ks. Jerzego.**

**Zespół ma również opracować życiorys posiadający wartość historyczną, a gdy to okaże się niemożliwe, przygotować przynajmniej szczegółową chronologię życia i działalności kandydata na ołtarze.**



### 12 MLN PIELGRZYMÓW U GROBU KS. POPIEŁUSZKI

12 milionów pielgrzymów odwiedziło grób ks. Jerzego Popiełuszki w ciągu pierwszych 10 lat od śmierci męczennika. Dane udostępnione KAI przez duszpasterza ludzi pracy archidiecezji warszawskiej ks. Jana Maciejewskiego, obejmują okres od 3 listopada 1984 r. do 19 października 1994 r.

Jak poinformowała KAI Katarzyna Soborak z parafii św. Stanisława Kostki w Warszawie, w samym tylko 1994 r. przy grobie ks. Popiełuszki, znajdującym się przy tym kościele, modliło się 596 tys. osób. Prawie 150 tys. spośród nich przybyło w grupach zorganizowanych: w 333 grupach z zakładów pracy, 876 młodzieżowych, 1470 parafialnych, 533 złożonych z członków organizacji społecznych i 68 turystycznych.

Sanktuarium odwiedzili mieszkańcy 2973 miejscowości Polski. Przyjechało też 11 tys. cudzoziemców niemal z całego świata. Najliczniejsi wśród nich byli Niemcy, Anglicy i Amerykanie.

### ZMARŁ KS. JÓZEF IWANICKI, B. REKTOR ATK

W wieku 93 lat zmarł 4 sierpnia w Warszawie ks. prof. Józef Iwanicki, były rektor ATK i KUL.

Msza św. za Zmarłego została odprawiona w kościele ss. wizytek w Warszawie 8 sierpnia. Uroczystości pogrzebowe ks. Iwanickiego, który był kapłanem diecezji włocławskiej, odbyły się w katedrze pw. Najświętszej Maryi Panny we Włocławku, 9 sierpnia.

Ks. prof. Józef Iwanicki był znanym logikiem, filozofem i psychologiem, autorem licznych publikacji naukowych, wybitnym wykładowcą uniwersyteckim. W latach 1946-54 r. był profesorem na Wydziale Teologii Katolickiej Uniwersytetu Warszawskiego, w latach 1951-56 rektorem Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, a w latach 1954-72 profesorem Akademii Teologii Katolickiej w Warszawie. W okresie od 1965 do 1972 r. pełnił funkcję rektora ATK.

Za swoje osiągnięcia był odznaczony Krzyżem Komandorskim Orderu Odrodzenia Polski, a także Medalem Komisji Edukacji Narodowej.

ВАТЫКАН

## Сустрэча Яна Паўла II з патрыярхам Варфаламеем

«Толькі б наша сустрэча стала каштоўнаю аказіяй да чарговага сумеснага кроку на шляху да бачнай еднасці», - сказаў Ян Павел II ў часе публічнай часткі першай рабочай сустрэчы з экуменічным Патрыярхам Канстанцінопаля Варфаламеем I. У кароткай прамове Папа пацвердзіў, што візіт «братоў у любові» робіць урачыстасць Святых Пятра і Паўла яшчэ больш святочнаю і павінен у кожным выклікаць глыбокі духоўны водгук. «У асобе Вашай Святасці, - сказаў Ян Павел II, - вітаю Святы Сінод Экуменічнага Патрыярхату і ўсіх праваслаўных у свеце. Ваша прысутнасць з'яўляецца для мяне выразам найбагацейшай духоўнай спадчыны і разнастайных дароў праваслаўных Цэркваў. У наш час, пасля вялікіх перамен апошніх гадоў, праваслаўныя Цэрквы аддана прысвяцілі сябе рэарганізацыі свайго душпастырства і справе евангелізацыі. Яны могуць быць упэўнены ў нашай дабразычлівасці і ў тым, што мы гатовыя да супрацоўніцтва ў службе абвяшчэння аднаго і таго ж Евангелля».

Папа Ян Павел II прыгадаў таксама аб імкненні святкавання «як мага бліжэй» з праваслаўнымі вялікага юбілею 2000 года, «так, каб вызнаць перад светам нашу супольную веру, імкнучыся да ўсё больш трывалай і поўнай камуніі».

Святы Айцец запэўніў свайго госця, што ўвесь каталіцкі Касцёл, і асабліва Рымская дыяцэзія вітаюць Патрыярха з такою ж самаю любоўю, якая можа быць да братоў і з належным наступнікам Апосталаў шацункам.



## Ватыкан не зацвердзіў два каталіцкія пераклады Біблії ў ЗША

Кангрэгацыя навукі веры адхіліла два пераклады Святога Пісання на англійскую мову, зацверджаныя амерыканскімі каталіцкімі біскупамі. Аб гэтым было праінфармавана Каталіцкае Біблейскае Таварыства ў ЗША. Таварыства ў сваю чаргу дамагаецца ад Апостальскай Сталіцы публічнага абвяшчэння прычынаў такога рашэння.

ЗАГРАНІЦА

## ТУЛА: ПЕРШЫ ЗА СТО ГАДОЎ ВІЗІТ БІСКУПА

Упершыню за сто гадоў у Туле пабываў з душпастырскім візітам каталіцкі біскуп. Апостальскі адміністратар еўрапейскай часткі Расіі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч адправіў тут 10 ліпеня Св. Імшу, у часе якой 9 асобам удзяліў сакрамэнт бежмавання.

Апошні раз каталіцкі біскуп быў у Туле ў 1894 г., калі кансэкраваў касцёл св. Пятра і Паўла.

Адным з пробашчаў мясцовай парафіі быў незабыўны пінскі біскуп, Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі.

З 1993 г. пробашчам у Туле служыць а. Януш Мароз. Св. Імшу адпраўляе ён у гаражы пад касцёлам, бо сама святыня занята пад установу судовай медыцыны.

Душпастырскую паслугу а. Мароз распачаў для трох чалавек. На сустрэчу з арцыбіскупам сабралася супольнасць з 40 парафіян.

ЗАГРАНІЦА

## Самы старажытны экземпляр Біблії знойдзены ў Ізраілі

«Keter Aram Zuba» - самы старадаўні на свеце гэбрайскі біблійны рукапіс у кніжнай форме, які амаль 50 гадоў лічылі спаленым. У апошні час ізраільская газета «Jedijot Achronot» паінфармавала, што каштоўныя пергаметныя карты хавалі жыды з Алеппа і таемна, старонка за старонкаю, перапраўлялі з Сірыі ў Ізраіль. Да сённяшняга дня невядома, як Біблія трапіла ў Ізраіль. Жыды з Алеппа салідарныя і не хочуць выдаць сваёй таямніцы, якую вельмі пільна ахоўваюць.

Да часу адкрыцця світкаў з Qumran над Мёртвым морам у 1948г. (копій, выкананых яшчэ ў часы Хрыстуса) гэты рукапіс Бібліі быў самаю старою з вядомых копій гэбрайскага арыгіналу Бібліі. Ужо многія стагоддзі ён з'яўляецца крыніцай розных легендаў. Гісторыя скапіраванага Саламонам бэн Буем у Тыберыі над возерам Геназарэт манускрыпту ўжо тысячу гадоў з'яўляецца тэмаю розных здагадак і адхіленняў. Гэтаю каштоўнаю кнігаю карыстаўся вядомы тэолаг і філосаф Маймонідас, пішучы свой знакаміты каментарый да Бібліі.

Лічыцца, што сельджукі ў 1071г. перанеслі кнігу з Ерусаліму ў Егіпет. Там яна была прададзена жыдам, якія захоўвалі каштоўную кнігу ў каірскай «Сінагозе Ерузалемітаў». Напрыканцы XIVст. праўнук Майманідаса перавёз рукапіс у Алеппа (Сірыя). Там ён атрымаў назву «Keter Aram Zuba» (карона Алеппа). Імкнучыся пазбегнуць крадзяжу бясцэннай кнігі, жыды з Алеппа змяшчалі на кожнай дзесятай старонцы надпіс: «Пракляты той, хто гэтую кнігу ўкрадзе ці прадасць».

У хуткім часе пасля ўтварэння Ізраіля ў 1948г. ў Сірыі пачаўся пагром жыдоў у Алеппа і была спалена мясцовая сінагога. Улады гміны распаўсюджвалі вестку, што «Карона» таксама згарэла. Але ў пяцідзесятыя гады пры невядомых абставінах у Ізраілі паявіўся адзін з двух тамоў рукапісу. Гэты том, які складаецца з 295 старонак рукапісу, напісанага каліграфічным пісьмом, захоўваецца ў панцырнай шафе ў ізраільскай нацыянальнай бібліятэцы і паказваюць яго толькі пры спецыяльных аказіях.

Навукоўцы былі пераказаны, што другі том «Кароны» сапраўды згарэў у Алеппа; адкрыта гаварылася аб непапраўнай страце для гісторыі культуры чалавецтва. У сямідзесятыя гады з'явіліся першыя прыкметы, якія сведчылі пра тое, што ўратаваны таксама і другі том. Нейкі сірыйскі жыд падараваў у спадчыну Ізраілю дзве старонкі кодэксу. Потым зноў запанавала ціша вакол страчанага рукапісу.

Газета «Jedijot Achronot» не напісала, дзе захоўваюцца правезеныя таемна з Сірыі старонкі рукапісу і колькі іх ёсць. Не вядома яшчэ, колькі старонак налічвала сама Біблія з Алеппа. З розных меркаванняў вынікае, што іх недзе ад 380 да 487 пергаментных старонак, напісаных па-гэбрайску каліграфічна.

Побач са світкамі з Qumran і Біблії Гутэнберга «Карона з Алеппа» належыць да найбольш вядомых у свеце экзэмпляраў Бібліі. Гісторыя і намаганні жыдоў з Алеппа з мэтаю аховы свайго скарбу, з'яўляюцца прадметам шматлікіх даследчых прац у Ізраілі, а таксама тэмаю тэлефізійнага фільму і многіх літаратурных твораў.

## *Маці Божая аб'явілася над Будзёнаўскам*

**У часе трагічных падзей у Будзёнаўску над будынкам шпіталя, занятага салдатамі Шаміля Басаева, аб'явілася Маці Божая, якая малілася. Пра гэты факт паінфармаваў нядаўна мітрапаліт Стаўрапольскі і Уладзікаўказскі Гедэон на канферэнцыі прэсы, якая была прысвечана высвятленню адносін рускай праваслаўнай Царквы да канфлікту ў Чачні.**

**Уладыка шкадаваў, што факт аб'яўлення Марыі, заўважаны многімі жыхарамі горада і вайскоўцамі, замоўчваюць расейскія сродкі масавай інфармацыі. Мітрапаліт заўважыў, што цяпер шпіталь у Будзёнаўску спустошаны і ніхто не хоча "лячыцца ў мурах, заплямленых крывёю нявінных людзей". Дапамагчы будаваць новы мясцовы шпіталь абяцаў мэр Масквы Юрый Лужкоў.**

**Гедэон падкрэсліў, што царкоўным уладам і праваслаўным вернікам найбольш адпавядае варыянт, які прадугледжвае будову пляцоўкі ў новым месце, а на месцы вымерлай клінікі - узвядзенне праваслаўнага мужчынскага кляштару, які некалі там знаходзіўся, а потым быў знішчаны, і ў якім былі рэліквіі мучаніка Міхала з Цверы.**

**«Хадайнічаем таксама перад мясцовай адміністрацыяй і федэральнымі ўладамі аб вяртанні Будзёнаўску яго гістарычнай назвы - Святы Крыж, - сказаў мітрапаліт Гедэон.**

(KAI)

## Першы хрысціянскі часопіс у Пецярбургу

У Санкт-Пецярбургу з верасня пачне выходзіць часопіс пад назваю «Хрысціянскі Санкт-Пецярбург». Гэтая назва ўпершыню з'явілася ў горадзе, вядомым сваімі традыцыямі талерантнасці і міжканфесійных сувязяў. Праект новага часопіса - гэта вынік супрацоўніцтва духавенства і свецкіх.

Яго заснавальнікі - сабор Святой Траецкай Лаўры Св.Аляксандра Неўскага і Акадэмія грамадзянскай авіяцыі, а фінансаванне запэўніла царкоўная філія банку «Пятроўскі». Узначальвае рэдакцыйную раду новага выдання прафесар Санкт-Пецярбургскай духоўнай Акадэміі пратаірэй Уладзімір Мустафін, галоўны рэдактар - выкладчык гэтай установы святар Веніямін Новік.

Галоўнаю мэтаю часопіса будзе асвятленне панарамы хрысціянскага Пецярбурга ва ўсёй яго рэлігійнай разнастайнасці. Галоўны рэдактар адзначыў, што часопіс павінен дапамагчы ў фарміраванні расейскай хрысціянскай грамадскай думкі, давесці да свядомасці грамадства духоўныя вартасці і аб'яднаць хрысціян у іх грамадскай дзейнасці.

«Хрысціянскі Санкт-Пецярбург» адрасаваны шырокаму колу чытачоў. Рэдакцыя паведаміла, што галоўным прынцыпам часопіса будзе магчымасць для кожнай духоўнай і свецкай асобы, - незалежна ад канфесійнай прыналежнасці, а таксама рэлігійных і палітычных перакананняў, - свабодна выказацца на яго старонках.

(KAI)

## Сербская праваслаўная Царква ў былой Югаславіі просіць Папу аб дапамозе

Святы Сінод сербскай праваслаўнай Царквы звярнуўся да Яна Паўла II, генеральнага сакратара ААН Бутраса Галія, а таксама да Еўрапейскай Уніі, каб яны распарадзіліся аб спыненні «жорсткай агрэсіі і спробаў выгнання харвацкімі войскамі сербскага насельніцтва Краіны.»

У заканчэнні плянарнага пасяджэння, якое адбылося 8 жніўня ў Белградзе, Сінод сербскай праваслаўнай Царквы пакрытыкаваў палітыкаў Сербіі і Чарнагорыі за тое, што не стрымалі сваіх абяцанняў гарантыі для Краіны і паставілі яе жыхароў у безвыходную сітуацыю.

(KAI)

## Кардынал Кухарыч патрабуе гуманных адносін да сербаў

Прымас Харватыі кард.Франіо Кухарыч патрабуе гуманных адносін да сербаў у Краіне - самазванай сербскай рэспублiцы ў Харватыі, якую пасля чатырох гадоў узялі харвацкія войскі. У часе канферэнцыі прэсы ў Загрэбе 8 жніўня ён сказаў, што скіраваў адпаведную заяву пераможцам аб гуманных адносінах да пераможаных.

«Харватыя вызваляе свае тэрыторыі і мае на гэта поўнае права, бо такім чынам дае магчымасць сваім жыхарам вярнуцца да мясцін, з якіх яны былі выгнаны», - падкрэсліў кардынал Кухарыч. Урад Харватыі заклікае ўсіх жыхароў сербскай нацыянальнасці, каб засталіся на гэтых тэрыторыях, бо маюць на гэта поўнае права. Кардынал таксама выказаў спадзяванне, што добрыя адносіны да сербаў, да чаго ён заклікае, павінны паказаць, што «Харватыя не належыць да цывілізацыі нянавісці і помсты, але да такой цывілізацыі, у якой дзейнічае прынцып, каб усім і кожнаму паасобку зычыць найлепшага».

БЕЛАРУСЬ

## *Патрыярх Алексій II з візітам на Беларусі*

У ліпені (з 22.07) з візітам на Беларусі прабываў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. «Я вельмі шчаслівы, што менавіта сёлета, калі мінула 50 гадоў пасля заканчэння Другой Сусветнай вайны, я магу наведаць гэтую змучаную беларускую зямлю,» - сказаў ён, прыехаўшы ў Мінск.

Алексій II сустрэўся ў Мінску з прэзідэнтам РБ Аляксандрам Лукашэнкам, які адзначыў свайго госця медалём імя Францішка Скарыны за вялікі ўклад у духоўнае адраджэнне народу. У кароткай прамове галава рускай праваслаўнай Царквы падкрэсліў сваю заклапочанасць адзінствам праваслаўнай Царквы. «Мы не можам дапусціць, - сказаў Патрыярх, - да якіх-небудзь падзелаў у яе лоне».

Адносна апошніх падзей у Кіеве ў часе пахавання патрыярха Уладзіміра Патрыярх Алексій II з прыкрасцю адзначыў, што «нават смерць чалавека выкарыстоўваецца для палітычных мэтаў, г.зн., з мэтаю давядзення да раздзелу украінскай праваслаўнай Царквы».

Адначасова ён выказаў перакананне, што да падобнай сітуацыі ніколі не дойдзе ў Беларусі, вядомай - па меркаванню Патрыярха - імкненнем захаваць этнічную еднасць.

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі наведаў Мінскую, Гродзенскую і Брэсцкую епархіі беларускай праваслаўнай царквы. «Я захаваю ў сваёй памяці знаходжанне на гродзенскай зямлі, - сказаў Алексій II, - На жаль, не ўсюды назіраюцца такія, як тут, талерантнасць, цярпімасць паміж людзьмі розных нацыянальнасцей і канфесій». Патрыярх падкрэсліў, што гэта асабліва важна цяпер, калі набліжаецца 2000-гадовы юбілей хрысціянства.

## *Узнагароды удзельнікам фестывалю*

У ліпені ў Магілёўскай катэдры трэці ўжо раз прайшоў Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа». Яго ўдзельнікамі былі госці не толькі з Беларусі, але і з дзесяці краін бліжняга і дальняга замежжа. На фестываль прыехалі прафесійныя і самадзейныя калектывы, якія паказалі высокі ўзровень выканання духоўнай музыкі. Было прысуджана шмат спецыяльных прызоў і прэмій. Гран-пры фестывалю атрымаў Дзяржаўны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь на чале з прафесарам Міхаілам Дрынеўскім. Дыплом 1 ступені і званні лаўрэатаў заваявалі спявачка з Львова Ларыса Дарэнская, акадэмічны Галіцкі хор «Евшан», маладзёжны ансамбль «Санктус» з г.Солец (Польшча), балгарскі хор з г.Крэмікоўцы, хор дзяўчат з Саратава, дзіцячыя парафіяльныя хоры праваслаўнага катэдральнага сабора Пятра і Паўла (Гомель) і «дарослы» хор катэдральнага касцёла Св.Станіслава (Магілёў).

## Кардынал Казімір Свёнтэк узнагароджаны Камандорскім Крыжам

27 ліпеня Прэзідэнт Польшчы Лех Валэнса ўзнагародзіў кардынала Казіміра Свёнтка, арцыбіскупа Мінска-Магілёўскага і апостальскага адміністратара Пінскай дыяцэзіі Камандорскім Крыжам з Зоркаю ордэну адраджэння Польшчы. Кардынал Казімір Свёнтэк атрымаў вышэйшую ўзнагароду Польшчы за выдатныя заслугі ў душпастырскай працы.

У абгрунтаванні да такой высокай узнагароды адзначалася, што "Душпастырская і арганізацыйная дзейнасць ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка ўносіць істотныя элементы ў развіццё супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Польшчай і Беларуссю і яе грамадзянамі.

Выражаецца гэта перад усім:

- у тварэнні рэлігійнай супольнасці многіх народаў, а перад усім палякаў і беларусаў, якім удзяляецца душпастырская паслуга на нацыянальных мовах;
- у душпастырскай працы са святарамі з Польшчы, якія запрошаны з прычыны недахопу мясцовых святароў, у працы, якая скіроўвае іх на спецыфічныя патрэбы Каталіцкага Касцёла на Беларусі;
- у арганізацыі значнай для РБ дапамогі ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, якая заключаецца ў штогадовай адпраўцы ў Польшчу і іншыя краіны Еўропы некалькі тысяч дзяцей, не зважаючы на веравызнанне і нацыянальнасць, на лячэнне і адпачынак пры пасрэдніцтве Caritas Polska і іншых асабістых кантактаў".

Дзякуючы за ўзнагароду, кардынал Казімір Свёнтэк падкрэсліў, што душпастырская праца Касцёла на Беларусі датычыць толькі евангелічных каштоўнасцей і менавіта гэта збліжае беларускі і польскі народы.

На ўрачыстасьці ўзнагароджання прысутнічалі выконваючы абавязкі пасла РБ у Польшчы сп.Мечыслаў Часноўскі і пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі пані Эльжбета Смулэк, а таксама шматлікія прадстаўнікі прэсы.

* * *

У чэрвені Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк наведаў ЗША. Галоўная мэта яго візіту - удзел у Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай арганізацыі дапамогі Касцёлу ў былым СССР, якая адбылася ў Каларада Спрынгс. Па запрашэнні мітрапаліта Чыкага кардынала Ёзапа Бернардына кардынал Казімір Свёнтэк адправіў Святую Імшу ў мясцовым касцёле Святой Тройцы, а таксама правёў працэсію Божага Цела вуліцамі Чыкага.

* * *

18 жніўня кардынал Казімір Свёнтэк у касцёле Святых Сымона і Алены (г.Мінск) удзяліў Сакрамэнт бежмавання 620 вернікам. У набажэнстве, якое праводзіў Яго Эмінэнцыя, удзельнічала больш як дзве тысячы чалавек.

* * *

20 жніўня Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк адбыў пілігрымку ў Кальварыю Забжыдоўскую, дзе на запрашэнне кардынала Махарскага правёў Святую Імшу і прамовіў казанне перад 10-цю тысячамі пілігрымаў.

У гэты ж дзень кардынал наведаў Вадовіцы - родны горад кардынала Вайтылы - а таксама касцёл Святога Пятра, які быў узведзены і кансэкраваны Папаю Янам Паўлам II як удзячнасць за выратаванне яму жыцця праз пасрэдніцтва Маці Божай Фацімскай.

* * *

## ВЕСТКІ З ПАРАФІЙ



24 чэрвеня гг., у дзень Святога Яна Хрысціцеля, адбылася III пешая пілігрымка з Пінскай катэдры ад гробу Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага да Марыйнага санктуарыя ў Лагішыне - да Маці Божай, Каралевы Палесся.

Пасля супольнай малітвы пілігрымаў паблагаславіў на дарогу ксёндз Станіслаў Паўліна, арыяніст, пробашч Пінскай катэдры.

У пілігрымцы ўдзельнічала 140 пілігрымаў - з Пінска, Янава Палескага, Крыўчыц, Падбалоцця, Целеханаў, Лагішына, Ганцавіч, Мінска, Гродна і з Латвіі. Самы малодшы пілігрым меў пяць гадоў, а самы старэйшы - 72. Правесці пілігрымку дапамаглі сёстры місіянеркі Святой Сям'і.

Тэмаю сёлетняй пілігрымкі была «Маці» Найсьвяцейшая і маці зямная. На гэту тэматыку былі ўсе песні, малітвы, разважанні, а таксама «вогнішча» напрыканцы дня наведзін цудоўнага абраза Маці Божай.

## НОВЫЯ КАСЦЁЛЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ



26 ліпеня Яго Эксцэленцыя біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч пасвянціў адбудаваны і адрэстаўраваны касцёл у Варончы (Наваградзкі дэканат), а потым - крыж і пляц пад будову новай святыні ў нядаўна створанай парафіі Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны на Поўдні - у мікраралёне г.Гродна.

Касцёл у Варончы існаваў яшчэ перад вайною, але потым быў амаль цалкам знішчаны, і толькі праз 45 гадоў быў вернуты мясцовай каталіцкай парафіі. Святыні вернута былая прыгажосць, дзякуючы вялікай і ахвярнай працы тутэйшых жыхароў і ўладаў, а таксама значнай матэрыяльнай дапамозе спонсараў з-за мяжы, асабліва фонда імя кс.Стэфана Нядзеляка з Варшавы. Рэстаўрацыйнымі працамі кіраваў ксёндз дзекач Антоні Дзямянка.

## 600-годдзе фарнага касцёла Перамянення Панскага ў Наваградку

Першы драўляны касцёл быў узведзены літоўскім князем Вітаўтам у канцы XIV стагоддзя на замчышчы, магчыма, на месцы паганскай святыні Перуна.

Аднанававы касцёл,mmmmm--oppp які існуе цяпер, збудаваны ў стылі барока ў 1719-1723 гг. З правага боку святыні дабудаваны дзве бочныя капліцы. У капліцы Маці Божай знаходзіцца цудоўны абраз Маці Божай Наваградскай. Кажуць, што праз яго атрымаў ласку аздараўлення Адам Міцкевіч.

У гэтым касцёле ў 1422г. Уладзіслаў Ягайла браў шлюб з князёўнаю Соф'яй Гальшанскаю. Тут у 1799 годзе быў ахрышчаны Адам Міцкевіч.

У галоўным алтары знаходзіўся абраз знакамітага мастака Смуглевіча, які прадстаўляў момант Перамянення Панскага. Абраз гэты быў знішчаны яшчэ напачатку XIXст., калі напалеонаўскія войскі ў часе наступлення на Маскву зрабілі з касцёла склад збожжа.

Абраз, які цяпер знаходзіцца ў святыні, намаляваў мастак Болтуць.

З 1875г. да 1922 касцёл адбудоўваўся. 1 лістапада 1922г. ксёндз біскуп Зыгмунт Лазінскі асвяціў адбудаваную святыню. У міжваенныя гады касцёл ізноў стаў парафіяльным. Пры ім распачалі выхаваўчую працу з дзяўчатамі сёстры-назарэтанкі.

У 1943г. пад канец ліпеня гітлераўцы правялі масавыя арышты сярод насельніцтва, і тады сёстры-назарэтанкі прамовілі шырока вядомыя цяпер словы: «Мой Божа, калі патрэбна ахвяра жыцця, няхай лепш нас расстраляюць, чым тых, хто мае сем'і». Ахвяра была прынята. 1 жніўня 1943г. у лесе за Наваградкам 11 сясцёр-назарэтанак аддалі сваё жыццё. Пасля вайны 19 сакавіка 1944г. целы замардаваных сясцёр былі перанесены і пахаваны пры касцёле. 27 верасня 1991г. іх астанкі перанесены ў грабніцу, якая знаходзіцца ў капліцы Маці Божай.

У 1946-1956гг. касцёл не меў пастаяннага пробашча, аж пакуль з лагера не вярнуўся ксёндз Войцах Навачык.

Апошні рамонт касцёла праведзены ў 1985-1991гг.

6 ліпеня адбылося ўрачыстае святкаванне 600-гадовага юбілею фары Вітаўта. У свяце прынялі ўдзел: кардынал Казімір Свёнтэк, нунцый Апостальскай Сталіцы Аўгустыно Маркэтто і біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч, а таксама шматлікія госці з-за мяжы і з усяе Беларусі.



7 жніўня ў Мёрах адбылося адкрыццё маладзёжнага фестывалю «Мы хочам Бога». Адкрыццё фестывалю ўшанаваў сваёй прысутнасцю Яго Эксцэленцыя Папскі нунцый Аўгустыно Маркэтто, які адправіў там Святую Імшу.

* * *

15 жніўня ў Дзятлаве фэстам, на якім прысутнічаў нунцый Апостальскай Сталіцы Аўгустыно Маркэтто, распачалося святкаванне 350-гадовага юбілею касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны.

* * *

21 жніўня ў Оршы распачаліся рэкалекцыі для моладзі Беларусі. З гэтай нагоды Папскі нунцый Аўгустыно Маркэтто адправіў Святую Імшу і сустрэўся з удзельнікамі рэкалекцый.

## Uroczystość ku czci bł.Jerzego Matulewicza w Mariampolu

W Mariampolu na Litwie odbyły się uroczystości ku czci bł.abc. Jerzego Matulewicza-Matulaitisa. Koncelebrowanej Mszy św. przewodniczył metropolita kowieński kard.Vincentas Sladkevičus, a homilię wygłosił biskup pomocniczy z Wilna bp Juozas Tunaitis.

Obecni byli m.i. abp Johannes J.Degenhardt z Paderbornu (Niemcy) i ordynariusz ełcki bp Wojciech Ziemba. Poinformował on, że diecezja ełcka przygotowuje się obecnie do nałożenia koron papieskich na słynący łaskami obraz Matki Bożej w Studzienicznej koło Augustowa. Uroczystość ma się odbyć 17 września z udziałem około 60 biskupów. W imieniu episkopatu Polski zaprosił na nią bp Juozasa Žemaitisa z Wyłkowyszek, aby był współkonserwatorem obrazu.

Abp Jerzy Matulewicz (po litewsku Jurgis Matulaitis, 1871-1927) odbył studia teologiczne w Kielcach, Warszawie i Petersburgu, gdzie w 1898r. przyjął święcenia kapłańskie. Kształcił się również we Fryburgu szwajcarskim. Po powrocie do kraju był profesorem w kieleckim seminarium duchownym i w Akademii Duchownej w Petersburgu, był też działaczem chrześcijańsko-społecznym w Warszawie. Na początku naszego wieku odnowił zakon marianów, którego został członkiem, a następnie generałem w 1911 r.

Na ziemi litewskiej założył dwa żeńskie zgromadzenia zakonne. W październiku 1918 r. został mianowany biskupem wileńskim, ale w lipcu 1925 r., ze względu na swe prolitewskie nastawienie musiał zrzec się rządów. W kilka miesięcy później Pius XI mianował go arcybiskupem tytularnym i wizytatorem apostolskim na Litwie, dokąd nowy arcybiskup zaraz wyjechał i gdzie na początku następnego roku zmarł.

Błogosławionym ogłosił go Jan Paweł II w Rzymie podczas obchodów 600-lecia chrystianizacji Litwy 28 czerwca 1987 r.

(KAI)

## Papież o powołaniach kapłańskich

Troska o powołanie kapłańskie oraz apel o sprzyjanie kulturze życia były treścią przemówienia, jakie Jan Paweł II wygłosił w czwartek 6 lipca do uczestników zakończonego poprzedniego dnia w Genui 53. zjazdu Serra Club International - organizacji zajmującej się "moralnym i materialnym wspieraniem" powołań kapłańskich.

Papież zwrócił uwagę, że wprawdzie "powołanie jest darem samego Jezusa, gdyż to On rzuca nasienie, ale to Kościół ponosi odpowiedzialność za kształtowanie jego potrzeb". Przypomniał to, co pisał w posynodalnej adhortacji "Pastores dabo vobis", że "istnieje dziś szczególna konieczność, aby rozpowszechniało się i utrwało przekonanie, że troska o powołania jest łaską i odpowiedzialnością powierzoną wszystkim bez wyjątku członkom Kościoła" (n.41), po czym podkreślił, że członkowie Serra Club International podzielają to przekonanie. "Drodzy przyjaciele - powiedział Ojciec Święty - pracujecie nad tym, aby stworzyć środowisko, sprzyjające powołaniom. Środowisko takie rozumieć należy jako niezbędną częśćiowej "kultury życia", o której pisałem w encyklice "Evangelium vitae".

Jan Paweł II stwierdził następnie, że kultura życia pozwala ludzkości na odzyskanie kontaktu ze Stwórcą i z samą sobą, odkryć znaczenie wiary, modlitwy i kontemplacji, uzdalnia kobietę i mężczyznę do poznania i doświadczenia na nowo wspaniałego działania Ducha. "Kultura ta umocni chrześcijańskie rodziny, owe "Kościoły domowe", które stwarzają wielkie możliwości narodzinom powołań" - powiedział Papież, wspominając również o potrzebie wyczulenia szkół i placówek wychowawczych na problemy powołania.

W tegorocznym zjeździe Serra Club International, którego tematem była miłość bliźniego, wzięło udział 1500 delegatów.

## *W Rosji wznowiła działalność masoneria*

Wielki mistrz Narodowej Loży Francji Claude Charbonnier przyjął w Moskwie przysięgę na Biblię i na wierność przykazaniom i tradycjom masońskim od nowego wielkiego mistrza Wielkiej Loży Rosji. Wręczył mu także młotek mistrza - symbol jego władzy. W ten sposób oficjalnie odrodziła się po prawie 80 latach przerwy masoneria rosyjska. Uroczystość odbyła się w jednej z sal gmachu Centralnego Domu Pracowników Sztuki w Moskwie, przerobionej chwilowo na świątynię masońską.

Uroczystość przebiegała zgodnie ze starym rytuałem i w odpowiedniej scenerii - z Biblią otwartą na pierwszym rozdziale Ewangelii św. Jana oraz z namalowanymi na płótnie trójkątem, cyrklem, szpadami i kolumnami budynku. W przededniu ceremonii z Petersburga przysłano haftowany złotem sztandar Loży, wykonany przez znawców heraldyki. Sami zaś bracia, uczestniczący w obrzędach, ubrani byli w czarne garnitury, białe rękawiczki i tradycyjne fartuszki.

Wieczorem odbył się bankiet z tej okazji z udziałem zagranicznych delegacji masońskich a także różnych środowisk rosyjskich, m.in. bankierów, wśród których zainteresowanie masonerią ostatnio wyraźnie wzrasta. Na przykład przedstawiciel Inturbanku wręczył nowemu Wielkiemu Mistrowi pierścień z 11 brylantami. Obecni byli także zagraniczni dyplomaci i przedstawiciele służb specjalnych. W tej ostatniej sprawie sami masoni uważają, że ich obecność im nie przeszkadza, gdyż "dzięki temu jest spokojniej, bo najczęściej przyczynąpodejrzliwości jest niewiedza".

Zdaniem znawców przedmiotu, jeśli perwsi masoni rosyjscy interesowali się bardziej alchemią i mistyką, to ich dzisiejsi spadkobiercy duchowi mówią więcej o losach kraju niż o kamieniu filozoficznym.

Wolnomularstwo rosyjskie sięga swymi początkami czasów Piotra I (1682-1725), najbujniej rozwijało się ono w ub.stuleciu. Po dojściu do władzy bolszewików w 1917 r. wszelka działalność masońska została zakazana. Odrodzenie jej przypada na r. 1991, kiedy to za pośrednictwem "Wielkiego Wschodu Francji" zaczęły przenikać do Rosji pierwsze, jeszcze nieregularne grupy masonów, dopuszczających w swe szeregi m.in. ateistów. W rok poźniej poprzez Narodową Wielką Lożę Francji pojawili się w Rosji już regularni wolnomularze, którzy początkowo podlegali Wielkiemu Wschodowi. Uzyskanie zezwolienia i swego rodzaju "błogosławieństwa" ze strony tego ostatniego oznaczało pełne uniezależnienie się Wielkiej Loży Rosji. Fakt ten uznali już masoni Francji, Polski i Węgier.

tz (KAI Moskwa)

**29 верасня ў Мозыры** адбудзецца ўрачыстасьць, прысьвечаная 250-гадоваму юбілею касьцёла Сьвятога Міхала ў Мозыры.



**17 верасня ў Янаве Палескім** у касцёле Узвышэння Святога Крыжа ўпершыню пасля вяртання гэтай святыні адбудзецца ўрачыстасць тытулу касцёла.



Сакрамэнт бежмавання *Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк* будзе ўдзяляць:

у **Браславе – 27 жніўня а 12-й** гадзіне

у **в.Мядзведзічы** (Ляхавіцкі раён) - **30 жніўня а 12-й** гадзіне.

Святарскія рэкалекцыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі адбудуцца **11-13 верасня**. Месца правядзення рэкалекцый - **в.Удзел** Глыбоцкага раёна.

## ВЕРАСЕНЬ 1995

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **1** | Браніславы<br>Ідзі | **11** | Гіяцынта<br>Прота | **21** | Мацея |
| **2** | Стэфана<br>Вільгельма | **12** | Найсвяцейшага імя<br>Панны Марыі | **22** | Тамаша<br>Маўрыкія |
| | Грыгорыя | **13** | Яна Хрызастома | **23** | Багуслава<br>Тэклі |
| **4** | Ліліяны<br>Разаліі | **14** | Узвышэнне<br>Святога Крыжа | | Герарда<br>Германа |
| **5** | Дароты<br>Тэадора | **15** | Маці Божай Балеснай | **25** | Уладыслава |
| **6** | Бэаты<br>Фауста | **16** | Карнэлія<br>Кіпрыяна | **26** | Касмы<br>Дзям'яна |
| **7** | Мельхіёра | | Юстыны<br>Роберта | **27** | Вінцэнта |
| | Свята нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны | **18** | Станіслава | **28** | Вацлава |
| **9** | Анэлі<br>Пятра | **19** | Маці Божай Салетынскай<br>Януарыя | **29** | Міхала<br>Габрыэля<br>Рафала |
| **10** | Пульхерыі<br>Мікалая | **20** | Эўзэбіі<br>Філіпіны | **30** | Гераніма<br>Фэліцыі |

Інфармацыйны бюлетэнь "Каталіцкія навіны"
№ 3 1995
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла
Зарэгістравана ў Міністэрстве Інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйны № 603
Надрукавана ў друкарні
Тыраж 3000 экз.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны